

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№250 (763) 23 снежня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Вчера в Ашгабате открылось заседание Совета министров обороны стран Содружества.**

На нем обсуждаются вопросы реорганизации главного командования ОВС СНГ.

❑

**С целью увековечения памяти и в связи со 100-летием со дня рождения Максима Горецкого правительство республики приняло решение о возведении в белорусской столице памятника этому выдающемуся деятелю национальной культуры.**

На эти цели из резервного фонда Совета Министров выделено 12 миллионов рублей.

❑

**В республике в очередной раз повышены тарифы на пригородные автобусные перевозки: до 18 рублей за километр в жестком и до 20 — в мягком автобусах.**

❑

**Пассажирский поезд подорвался на мине близ грузинского населенного пункта Садахло недалеко от границы Грузии с Арменией.**

❑

**Азербайджанская армия вчера ночью вновь попыталась прорвать при поддержке бронетехники оборонительные рубежи карабахских формирований в Аскеранском районе Нагорного Карабаха.**

По данным карабахской стороны, ее войска, уничтожив боевую машину пехоты и 6 азербайджанских солдат, отбросили наступающего противника на прежние позиции.

❑

**Руководство Молдовы намерено просить на встрече глав государств СНГ в Ашгабате продлить до марта 1994 года срок ратификации документов о вступлении в СНГ.**

❑

**Судебное заседание по делу ГКЧП откладывается в связи с обострением болезни подсудимых.**

В.Павлов госпитализирован с гипертоническим кризом, а у А.Лукьянова установлено воспаление легких.

❑

**На переговорах по югославскому урегулированию в Женеве сербская и хорватская стороны выступили с совместной инициативой по территориальному разграничению в Боснии и Герцеговине.**

Они согласились пойти на уступки в пользу боснийских мусульман с тем, чтобы территория будущей мусульманской республики составила по площади треть нынешней Боснии и Герцеговины.

❑

**Более сорока бывших народных депутатов России стали депутатами Совета федерации.**

Среди них такие известные люди, как Кирсан Илюмжинов, Борис Немцов, Аман Тулеев, Владимир Шумейко.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Почем "Сникерс" для народа?

**"Сникерс" лучше не кушать", — так сказали деткам большие московские дяди, когда проверили в специальной лаборатории стандартов эту знаменитую по рекламе шоколадку.**

В ней обнаружено очень много примесей ядовитых металлов. Мамам и папам же ученые дяди не советуют кушать практически все колбасные изделия, доставленные из Германии, Франции и Бельгии. В этих продуктах обнаружено превышение нормы содержания нитратов.

Впрочем, кто возьмется утверждать, что в отечественной продукции опасных примесей меньше?

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Спорт-экспресс

**На прошедшем в Пинске первом чемпионате мира по русским шашкам чемпионом стал таджикский шашист М.Амриллоев.**

Серебряную медаль завоевал российский гроссмейстер Ю.Королев, бронзовую — гродненский шашист А.Валюк.

❑

**В минском Дворце тенниса открылся традиционный международный теннисный турнир памяти заслуженного военного летчика Анатолия Ивановича Грошева.**

В мужском и женском одиночных разрядах спор за награды начали по 32 теннисиста и теннисистки из зарубежных стран и Беларуси.

**Вильям ОСТРИНСКИЙ.**

### Погода и здоровье

**23 декабря погода в Минске и области будет определяться полем пониженного атмосферного давления. Ожидается снижение содержания кислорода в воздухе.**

Сегодня больные с заболеваниями дыхательной и сердечно-сосудистой систем могут почувствовать недомогание. Им рекомендуется ограничить физическую и психоэмоциональную нагрузку, чаще проветривать помещение. Не стоит забывать и о регулярном приеме лекарств, назначенных врачом. Лицам, склонным к снижению артериального давления, показан прием тонизирующих средств.

**Антонина КАРОЗА,**
**научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**

### "Мертвый час" начнется в десять?

**На собрании представителей профсоюзных организаций Ассоциации независимых профсоюзов промышленности Беларуси принято обращение ко всем членам профсоюзов о проведении 12 января 1994 года общереспубликанской забастовки.**

Предлагается с 10 до 11 часов в этот день прекратить работу на всех предприятиях, в организациях и учреждениях.

Профсоюзы требуют снизить налоги для производителей, не допустить замораживания зарплаты, остановить коррупцию и провести в мае будущего года досрочные выборы парламента.

**Максим КОСТИКОВ.**

### Жаль, что не было стрелочника

**Вчерашняя остановка поездов Минского метрополитена породила много невероятных слухов, которые, впрочем, не подтвердились.**

Произошло же рядовое событие: на кольцевой станции "Институт культуры" не перевелась стрелка. Что ж, вполне понятно, все-таки не на японской аппаратуре работаем.

Как сообщили в управлении Минского метрополитена, технический персонал станции сработал четко: через девять минут поломка была исправлена...

**Константин УЛЬЯНОВ.**

### Энергетики в электрошоке

**Небывалого размера достигли на Могилевщине масштабы хищения цветных металлов. Только в ноябре в областном центре разукомплектовано аж 15 трансформаторных подстанций.**

Генеральный директор объединения "Могилевэнерго" Владимир Сергеев обратился к народному депутату республики, председателю облисполкома Николаю Гриневу с просьбой поднять в парламенте вопрос о принятии специальных законодательных актов об усилении ответственности за повреждение энергоустановок и энергооборудования.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Ни дня без суицида?

**За 15 декабрьских дней ровно 15 попыток самоубийств произошло в Витебске.**

Большинство этих случаев окончилось, если можно так сказать, благополучно: "скорая" поспевала вовремя. Чаще всего приходилось "выкачивать" снотворные и другие опасные таблетки из желудков молодых девушек, избравших этот способ ухода из жизни как "лекарство от любви", которая не оправдала надежды.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Карты-картишки брошены веером...

**В гродненской гостинице "Турист" открылось казино, которое является филиалом республиканского арендного объединения "Белаттракцион".**

Это уже третье казино, открытое в текущем году "Белаттракционом". Ранее они появились в Бресте и Гомеле. И для публики развлечение, и для тощей городской казны неплохой источник дохода.

**Роман ШЕВКО.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН**

*З першых вуснаў*

## Як падняць на ногі медыцыну?

**Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч сустрэўся ў Доме ўрада з групай народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, якія прадстаўляюць у парламенце сістэму аховы здароўя.**

Прэм'ер-міністр пазнаёміў прысутных з асноўнымі пытаннямі парадку дня маючай адбыцца ў Ашгабаце нарады кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў краін СНД, асабліва падкрэсліўшы, што ўрадавая дэлегацыя Беларусі будзе настойваць на практычнай рэалізацыі падпісанага ў гэтым годзе дагавора аб утварэнні эканамічнага саюзу.

У ходзе абмеркавання праблем аховы здароўя было адзначана, што, нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, урад робіць усё, што ад яго залежыць, каб дапамагчы гэтай галіне. На яе патрэбы ў будучым фінансавым годзе выдзяляецца больш за два трыльёны рублёў. Па распараджэнню прэм'ера, туды будуць накіраваны 40 мільёнаў долараў свабодных крэдытаў з валютнага фонду.

Як падкрэсліў Вячаслаў Кебіч, паспяховае вырашэнне праблем аховы здароўя ў многім залежыць ад саміх народных дэпутатаў, ад прадуманасці прымаемых імі заканадаўчых актаў.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Дзверы Авальнай залы зачыніліся да сярэдзіны студзеня. Жыццё працягваецца...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Учора беларускі парламент правёў апошні працоўны дзень перад зімовымі вакацыямі — аж да сярэдзіны студзеня.

Пачаўся ён традыцыйна. У "Розным" першаму слова было дадзена дэпутату Р.Вячэрскаму. Ён праінфармаваў пра стан здароўя С.Шушкевіча. І гэтым самым зняў многія чуткі і плёткі вакол асобы Старшыні Вярхоўнага Савета: згодна з высновай спецыялістаў-медыкаў, ён сапраўды мае патрэбу ў стацыянарным лячэнні.

Дэпутат У.Валчэцкі па даручэнню сакратарыята сесіі зачытаў тэлеграму да Вярхоўнага Савета ад удавы Д.Арцымені, у якой яна выказвае свой погляд на некаторыя факты, названыя ў вядомым дакладзе А.Лукашэнкі.

Анатоль Вярцінскі таксама звярнуўся да пошты, якая прыходзіць гэтымі днямі ў Камісію па галоснасці і правах чалавека і ў якой даецца характарыстыка "двайной маралі наменклатуры".

Затым слова ўзяў намеснік Старшыні Савета Міністраў М.Косцікаў. Гучалі словы "нафта", "гарэлка". М.Косцікаў адхіліў абвінавачванні ў свой бок у нафта-гарэлачных справах.

Дэпутат М.Качан непакоіўся "разжиганием" нацыянальнай "розни", якое, на яго думку, вядзецца на старонках адной баранавіцкай газеты.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка С.Багданкевіч расказваў пра канкрэтныя захады па выкананню пастановы аб узаемных заліках.

Дэпутат А.Даўлюд зачытаў зварот аднаго са сваіх выбаршчыкаў, які дабіваецца праўды і справядлівасці ў судовай справе аб забойстве яго сына супрацоўнікамі органаў унутраных спраў.

В.Шэйман зачытаў зварот воінаў-афганцаў, у якім гучыць трывога за сацыяльна-эканамічны стан грамадства і даюцца свае меркаванні аб шляхах выхаду з крызісу.

Затым парламентарыі прыступілі да асноўнай павесткі дня. А яна была і простай, і складанай адначасова — прыняцце пастаноў па ўсяму блоку эканамічных праблем, якія дыскуціраваліся папярэдне. "Працуем, пакуль не прымем, — папярэдзіў дэпутатаў старшынствуючы В.Кузняцоў. — Нават ноччу..."

Сапраўды, марудзіць больш нельга — набліжаецца новы год. Але ж хутка ўзяць быка за рогі дэпутаты не змаглі. Узнікла, напрыклад, падазрэнне, што пры галасаванні некаторыя націскаюць кнопку суседа.

Патроху з гэтай праблемай парламентарыі разабраліся і ўшчыльную падступіліся да пастаноў па пытаннях эканамічнай праграмы ўрада, грашова-крэдытнай палітыкі, бюджэту на 1994 год.

Яны і былі прыняты пасля непрацяглых дэбатаў. Аналізаваць сутнасць сур'ёзных эканамічных дакументаў у кароткай справаздачы няма магчымасці. Бясспрэчна адно — менавіта па іх нам прыйдзецца пачаць жыццё ў 1994 годзе.

Жыццё, значыць, і пакажа лепш за ўсё, на якую адзнаку напрацавалі ўчора нашы выбраннікі.

Пакуль жа дзверы залы пасяджэнняў беларускага парламента зачынены — да сярэдзіны студзеня. Адпачнём і мы...

*Шаноўныя чытачы!*

## Фармальна рэдакцыя выканала свае абавязкі да канца года, але на калядныя канікулы ісці не збіраецца

Наш сённяшні нумар — 250-ы з пачатку года. Фармальна рэдакцыя выканала свае абавязкі перад падпісчыкамі. А калі дакладней, то і перавыканала, бо выйшла нямала нумароў павялічанага аб'ёму — з укладышамі; быў пранумараваны як звычайны, "адзіночны", і адзін з 16-палосных выпускаў.

Мы, аднак, разумеем, што "калядныя канікулы" рэдакцыі ўдарылі б па інтарэсах чытачоў, пазбавіўшы іх актуальнай інфармацыі больш чым на тыдзень. Таму, хай сабе і ідучы на дадатковыя выдаткі, вырашылі выпусціць да канца года яшчэ некалькі нумароў. Так што не хвалюйцеся: заўтра вас таксама чакае сустрэча з "Народнай газетай". І, безумоўна ж, з большасцю сваіх старых сяброў, а таксама з мноствам новых (як вы ведаеце, падпісны тыраж газеты з 1 студзеня прыкметна ўзрастае) мы сустрэнемся ў новым годзе.

*Фотоочерк*

## За что Олег Лесниченко полюбил Беларусь, а Беларусь полюбила его



В Беларусь Олега Васильевича Лесниченко (на нижнем снимке слева) забросила судьба. Родом он из Украины, но в Минске живет давно. И хотя родственников здесь нет, одиноким себя не чувствует. У него хорошая семья, немало друзей, крепкий коллектив. За столько лет Олег Лесниченко полюбил Беларусь, а Беларусь полюбила его. Это он особенно почувствовал, когда на комбинате силикатных изделий встал вопрос об избрании нового директора. На конкурсной основе. Главным его соперником оказался тогда... райком партии. Именно оттуда режиссировалась вся выборная компания, именно оттуда летели стрелы в него.

За что же не любили Олега Лесниченко в партийном доме? За то, что он не любил много говорить. По профессии он экономист, и его дело — расчеты, точные, выверенные. А семинары, совещания, митинги — это не для него...

Как ни старались тогдашние партбоссы, коллектив Минского комбината силикатных изделий своим руководителем избрал именно его, Олега Васильевича Лесниченко. И вот он уже на этом посту более пяти лет.

Нет, не случайно свой выбор люди остановили на Лесниченко. Рабочим нужен не царь-батюшка, не чиновник-вельможа, им нужен простой, доступный, честный руководитель. Такой, который, если нужно, то возьмется и за черновую работу. Именно за это полюбили в Беларуси украинца Олега Лесниченко, именно за это избрали его своим директором рабочие столичного комбината строительных материалов.

А черновой работы у Олега Васильевича было и есть предостаточно. Сколько он руководит — столько предприятие строится-перестраивается. Пожалуй, нет того цеха, того участка, где бы за его бытность руководителем не проведена реконструкция, не внедрены какие-то новшества. В ближайшее время будет запущен еще один цех. И стройка, реконструкция, модернизация ведутся в основном своими силами. Тяжело, но зато результаты налицо. На других предприятиях огромный спад производства, а здесь, на комбинате силикатных изделий, практически не чувствуется. Несколько, правда, снизился выход товарной продукции, производимой из завозного сырья, но зато наращиваются объемы той, для выпуска которой используется местное сырье. Почти 80 миллионов штук кирпича и 82 тысячи кубических метров блоков — вот результат одиннадцати месяцев нынешнего года. А еще коллектив комбината производит различные перегородочные плиты, фундаментные блоки, материалы для утепления. Словом, ассортимент не сужается, а расширяется. Совершенствуются и технологии. А как же — отстанешь от научно-технического прогресса, потеряешь, понятно, и в качестве подукции. А это, считай, потеря рынка. Олег Васильевич и его единомышленники прекрасно понимают, что уже в ближайшие годы эта проблема встанет самым острым образом, а потому на комбинате, как говорится, не спят в шапку.

Как и в бытность экономистом, любит О.Лесниченко посидеть с карандашом в руках. Когда цифры "пляшут" — радостно и на душе. Он знает — за цифрами стоят живые люди, со своими планами и надеждами, проблемами и вопросами. Ему, руководителю, хочется одного — чтобы эти люди были довольны своей работой, результатами своего труда, чтобы, закончив смену, домой возвращались веселыми и довольными. Производство не из легких, песни петь не будешь, но если чувствуешь, что о тебе заботятся, то убегать не станешь. Усвоив эту аксиому, Олег Васильевич Лесниченко в одинаковой мере переживает как за поставки сырья, так и за создание нормальных условий труда для каждого работающего. В цехах не только бетон, металл, различные наполняющие материалы, но и уголки отдыха с оригинальными скамеечками и радующими глаз цветными панно, аквариумы и цветники. А после работы — пожалуйте в сауну.

**(Окончание на 2-й стр.)**



**НА СНИМКАХ:** вверху: не простое дело — производство полистеролбетона, но формовщики Виктор Пипко и Сергей Гаврилов не подводят; растите, малыши, здоровыми и красивыми; Олег Васильевич Лесниченко (на нижнем снимке слева) в утренних заботах — проводит совещание с руководителями служб.



*Фотоочерк*

# За что Олег Песниченко полюбил Беларусь, а Беларусь полюбила его

(Окончание. Начало на 1-й стр.)

А если не спешишь домой — загляни в заводскую столовку. Не хуже любого кафе! Можешь не только хорошо поесть, но и с собой что-нибудь вкусненькое захватить. Вообще о питании своих работников на комбинате заботятся основательно. Во многом выручают бартерные связи, производители сельхозпродуктов получают по первому требованию продукцию комбината, а взамен по доступным ценам реализуют то, что требуется к столу рабочего человека.

Олег Васильевич Лесниченко не живет сегодняшним днем, его взгляд устремлен в будущее. Его интересует не только то, сколько за смену выдано "на-гора" кирпича, блоков, плит, но и сколько ребятишек вчера было в комбинатовском детском садике, не болеют ли малыши, как чувствует себя персонал воспитателей и нянечек, нет-нет да и заглянет на соревнования доморощенных спортсменов. А наступает пора отпусков — вместе с профсоюзом позаботится, чтобы как можно больше людей побывало в домах отдыха, пансионатах, санаториях.

...Живет и работает в Беларуси украинец Олег Васильевич Лесниченко. Он любит Беларусь, а Беларусь любит и ценит его. За труд, за честность, за умение руководить большим и сложным коллективом.

**Иван СИДОРЧУК,**
**Сергей ГРИЦ (фото).**

**НА СНИМКАХ:** завтра из этого кирпича будут строиться прекрасные дома, коттеджи, производственные здания; первый цех занимается производством железобетонных изделий, труд тяжелый, но результаты радуют: Павлу Кузнецову, расформовщику, за свою работу никогда не стыдно; в уголке отдыха.

*Нам стала вядома*

## У безадказнага таты ядуць дзеткі нітраты!

Баранавіцкі гархарчгандаль пастаўляў у школы і дзіцячыя садкі бульбу і буракі. Ешце, маўляў, дзеткі, на здароўе. І нават сертыфікат якасці прад'яўлялі, што гародніна самая якасная.

Якое ж здзіўленне ў работнікаў Баранавіцкага цэнтра стандартызацыі і метралогіі выклікалі вынікі праверкі ў сталовай N 12 сярэдняй школы N 1, калі ў бульбе нітратаў аказалася ў 1,8 раза болей, чым дапушчальна па санітарнай норме. У бураках — удвая больш.

На стол дзіцячага сада N 45 Баранавіцкага вузла сувязі гархарчгандаль таксама пастаўляў гародніну, "прыпраўленую" нітратамі. Усяго недабраякаснай прадукцыі рэалізавана ў дзіцячыя ўстановы на 649 тысяч рублёў.

Па заяве пракурора горада Баранавічы гаспадарчы суд Брэсцкай вобласці ўтрымаў з гархарчгандлю ў даход рэспубліканскага бюджэту 12 тысяч рублёў штрафу. Грошы з адной дзяржаўнай кішэні пераляцелі ў другую.

Але, відаць, трэба было спагнаць штраф з безадказных татаў, якія заселі за частаколам сертыфікатаў. Няхай бы "плакалі" грошыкі ў чыноўнікаў! І чым часцей, тым лепей.

**Мікалай ДЗМІТРЫЕВІЧ.**

*Двума абзацамі*

### Грошы наперад!

**Зменены парадак разліку за паслугі таксі: хочаце ехаць — аплаціце пры пасадцы арыенціровачны кошт паездкі.**

У канцы паездкі, калі спатрэбіцца, або даплаціце, або атрымайце здачу. Увядзенне перадаплаты звязана з усё больш частымі выпадкамі, калі пасажыр у літаральным сэнсе ўцякае ад расплачвання. Такі парадак існаваў раней — толькі пры паездках за горад. Цяпер жа па просьбе таксістаў ён распаўсюджаны на ўсе віды паездак.

**Ірына ЖУКОВІЧ,**
**БелаПАН.**

### Каб ведаць гісторыі ўрокі

**На своеасаблівы "ўрок" сабраліся ў Мінску настаўнікі-краязнаўцы з усіх куткоў Беларусі, каб разам з вядомымі вучонымі і педагогамі абмеркаваць ролю краязнаўства ў выхаванні школьнікаў.**

120 удзельнікаў рэспубліканскай канферэнцыі пачуюць меркаванні па гэтаму пытанню дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны Адама Мальдзіса, вядучых гісторыкаў-краязнаўцаў рэспублікі, пазнаёмяцца з канцэпцыяй старажытнай гісторыі Беларусі, незнаёмымі старонкамі гісторыі другой сусветнай вайны ў Беларусі, пагартаюць дакументы-рэліквіі з нацыянальнага архіва.

**Белінфарм.**



*Открытым текстом*

## Как в газете "Сцяг Леніна" оскорбляют свое государство

Уважаемая редакция!

Газете "Народной" доверяю, как самому себе, поэтому и направляю в ваш адрес один из номеров газеты "Сцяг Леніна", чтобы вы убедились, что в районах, подобных Березинскому, у власти как были, так и остались стоять коммунисты, которые только поменяли свой облик, подобно хамелеону, и теперь ждут того момента, чтобы ударить по демократии исподтишка. А пока, пользуясь возможностью и безграничной властью на местах, "оболванивают" сельский народ статейками, одна из которых помещена в этом номере под названием "Пад бела-чырвона-белым сцягам". Причем написана не кем-нибудь из простачков, а исполняющим обязанности редактора газеты Борисом Манцевичем.

Само уже архаическое название газеты "Сцяг Леніна" говорит за себя, кто кем командует и кто в нашем районе стоит у власти, кто заказывает музыку. Уже одним своим названием газета оскорбляет национальные чувства уважающего себя белоруса. При чем здесь Ленин и его знамя до суверенной Беларуси? Неужели у нас нет национальных героев, имена которых могут носить названия журналов и газет?

По поводу содержимого статьи: можно в чем-то соглашаться с Борисом Фроловичем, в чем-то нет, но для меня ясно одно: нельзя исполняющему обязанности редактора газеты оскорблять герб и знамя своего государства, насмехаться над ними публично и, рассчитывая на простачков, говорить, что под этим знаменем полицаи "учынілі крывавую расправу над мірнымі жыхарамі Хатыні". А хотелось бы спросить у Манцевича: под каким знаменем происходили зверские раскулачивания и ссылки в Сибирь, где не приспособленные к морозам белорусы тысячами умирали? Такая участь постигла и моих деда и бабушку и других родственников. Со слов матери, их даже и захоронили в болоте, в "багне". Так почему про это знамя не вспомнить Борису Манцевичу?

Стыдно также, что исполняющий обязанности главного редактора обливает грязью наш национальный праздник День независимости и фактически через средства массовой информации призывает население к неуважению суверенитета Беларуси, ее символики и "заклікае працоўных раёна затрабаваць ад Вярхоўнага Савета выправіць сваю гістарычную памылку". Аналогичные пасквили появлялись и в дни работы съезда белорусов всех стран. Тогда тоже вышла статья, в которой Борис Манцевич огульно обзывал белорусов, оказавшихся по воле судьбы за рубежом "недобитыми полицаями и отребьем", в то время как прогрессивные деятели государства приветствовали этот съезд и средства массовой информации давали ему положительную оценку. Я радуюсь только одному, что сами приехавшие на съезд белорусы не читали этой "районки" и не увезли с собой чувство горечи.

Посмотрите подшивку газеты "Сцяг Леніна", и вы убедитесь, что она пестрит выступлениями коммунистов Беларуси, которые агитируют народ за коммунизм. И ни в одном номере я не увидел, чтобы выступил кто-либо из представителей демократических партий. Посмотрели бы вы, с какой помпезностью возлагаются цветы к памятнику Ленину на центральной площади города во время коммунистических праздников и какие речи там произносятся. Я наблюдаю все это и думаю: "Господи, где я живу — в России или независимой Беларуси?" Почему руководство района не восхваляет К.Калиновского или Ф.Скорину? Поэтому, пока не сменятся такие руководители, ни о каких переменах, а тем более на местах, и мечтать не приходится.

Не подумайте, что меня кто-либо обидел из местных руководителей. Просто прочитал "районку", и мысли сами наплыли на меня, и молчать я не могу. Хочу, чтобы "Народная газета", которую я выписываю и читаю от корки до корки с момента ее существования, дала свою оценку по поводу статьи "Пад бела-чырвона-белым сцягам". Нельзя молчать, видя такое безобразие.

Извините за сумбурность мысли, хотелось много написать, да не хочу утомлять редакцию.

**А.А.ЛАЩ.**

**АД РЭДАКЦЫІ "НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ".**

***Аўтар просіць, каб мы далі сваю ацэнку артыкулу "Пад бела-чырвона-белым сцягам". Мяркуем, усё сказана ў публікацыі. Няхай лепш задумаюцца тыя, каму яна адрасавана.***

*З першых вуснаў*

## Загад дэтэктывам: ні з месца!

Што мы ведаем пра дэтэктываў і іх дзейнасць? Амаль што нічога. Замежныя фільмы і маляўнічыя кніжкі, якія прысвечаны гэтаму загадкаваму боку дзейнасці асобных грамадзян, захапляюць нас вострасюжэтнымі сцэнамі. Ці ёсць такі від дзейнасці ў нашай рэспубліцы? Размова начальніка арганізацыйнага аддзела ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі Аляксандра КАПУЦКАГА з нашым няштатным карэспандэнтам і дасць адказ на гэта пытанне.

**— Аляксандр Аляксандравіч, адна з апошніх пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, якая нарабіла шуму сярод валютных хлопчыкаў, моцна ўдарыла яшчэ і па фірмах, якія займаюцца дэтэктыўнай дзейнасцю.**

— Гэта так. Пастанова забараняе Міністэрству ўнутраных спраў выдаваць ліцэнзіі на занятак дэтэктыўнай дзейнасцю. Яна будзе мець сілу да той пары, пакуль Вярхоўны Савет не прыме адпаведных заканадаўчых актаў у гэтым напрамку.

**— Я так разумею, што гэтым дакументам прыпыняецца і дзейнасць тых фірм, якія ўжо раней атрымалі ліцэнзіі?**

— Безумоўна.

**— Калі не сакрэт, колькі іх зарэгістравана?**

— Упраўленне крымінальнага вышуку выдала 53 ліцэнзіі. З іх 5 — прыватным прадпрымальнікам, 21 — фірмам, астатнія — супрацоўнікам фірм, паколькі асобай умовай існавання гэтых відаў дзейнасці ў нас прадугледжана набыццё кожным работнікам фірмы асабістай ліцэнзіі.

**— Мне здаецца, што такая груваслкасць у афармленні, напэўна, і залішняя?**

— Не зусім так. Можа, якраз і наадварот. Пакуль што будучага трымальніка ліцэнзіі мы разглядаем з усіх бакоў, інакш кажучы, на што ён здатны. Збіраем аб ім неабходную інфармацыю. Гэта і дае нам вось такая, як вы кажаце, грувасткасць.

**— Я здагадваюся, што матывам для прыпынення падобнай дзейнасці з'явілася не толькі адсутнасць закона, але і недазволеная дзейнасць незарэгістраваных фірм не толькі ў дэтэктыўным напрамку, але і ў ахоўным...**

— Бясспрэчна. Такія фірмы ёсць, і нават не адна. Іх тэлефоны можна сустрэць у розных рэкламных выданнях. Напрыклад, калі вы патэлефануеце па нумарах: 65-12-12, 96-54-27, 26-94-38 і іншых, то вам прапануюць "любые виды детективной деятельности", у тым ліку нават і тыя, за якія прадугледжана крымінальная адказнасць. Атрымліваецца парадокс — фірма, што павінна працаваць у рамках закона і выконваць даручэнні іншых асоб па ўстанаўленню справядлівасці, сама з самага пачатку дзейнасці абыходзіць закон. Не дзіўна, што сярод адпаведных фірм частымі становяцца не толькі выпадкі парушэння закона, але і злачынствы. Напрыклад, работнік фірмы "Агата", дарэчы, звольнены з органаў унутраных спраў, аднак апрануты ў міліцэйскую форму, здзейсніў злачынства. Супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа, і ў выніку суда ён прыгавораны да пазбаўлення волі. Пры расследаванні гэтай справы ў офісе фірмы былі знойдзены яшчэ некалькі камплектаў міліцэйскай формы.

**— З такімі "ахоўнікамі" вельмі рызыкоўна падтрымліваць дзелавыя сувязі...**

— Безумоўна. Кліентам патрэбна шукаць надзейныя фірмы.

**— А як, напрыклад, прадпрымальніку даведацца, ёсць у фірмы ліцэнзія на ахову ці не?**

— Вельмі проста. Наш тэлефон 29-77-25. Па гэтаму нумару кожны прадпрымальнік можа высветліць звесткі наконт ліцэнзавання фірмы, яе рэпутацыі.

Але я яшчэ раз нагадаю: што тычыцца дэтэктыўных паслуг, то іх ажыццяўленне прыпынена да таго часу, пакуль у рэспубліцы не з'явіцца адпаведная нарматыўная заканадаўчая база. Аб гэтым павінны ведаць усе зацікаўленыя бакі.

**Інтэрв'ю правёў Віктар ПАТАПЕНКА.**

*Бізнес не ведае межаў*

## Камерцбанк прыйшоў першы, каб працаваць і вучыць...

**Уладзімір САМОЙЛАЎ**

Мы шмат і з захапленнем гаворым аб стварэнні рыначных адносін, але не абцяжарваем сябе тым, каб задумацца: а чаму гэта заходні капітал не спяшаецца на наш рынак? Напэўна, таму, што рынак гэты не проста не цывілізаваны, а на дзіва дзікі, нягледзячы на ўсе нашы намаганні з гразі адразу трапіць у князі.

Для буйных заходніх банкаў, якія ўвасабляюць сур'ёзны сусветны капітал, прыйсці да нас раўназначна подзвігу касманаўтаў, якія збіраюцца высадзіцца на Месяц або на Марс. Здаецца, на такі подзвіг адважыўся нямецкі Камерцбанк, які днямі першы з заходніх банкаў адкрыў сваё прадстаўніцтва ў Мінску.

Камерцбанку ж, які быў заснаваны ў 1870 годзе, а цяпер мае гадавы абарот 235 мільярдаў нямецкіх марак і ўласны капітал 10 мільярдаў марак, які працуе больш чым у 30 краінах, наша маленькая рэспубліка наўрад ці прынясе вялікія прыбыткі. Затое клопатаў у Камерцбанка, напэўна, будзе шмат.

Акрамя выканання прамых банкаўскіх функцый па прадастаўленню шэрагу паслуг кліентам нямецкі банк мяркуе прымаць актыўны ўдзел у стварэнні цывілізаванай банкаўскай сістэмы Беларусі. Напрыклад, у рамках праграмы ЕС "TACIS" Камерцбанк, што ўзначальвае кансорцыум, у які акрамя яго ўваходзяць "Прайс Вотэрхауз" і Банкаўская акадэмія, атрымаў ад Еўрапейскага супольніцтва мандат на правядзенне васемнаццацімесячнага курса навучання банкаўскай справе кіруючых супрацоўнікаў банкаў і стварэнне школы па навучанню іншых банкаўскіх спецыялістаў.

А ўсяго будуць навучаны больш як 300 спецыялістаў. І гэта ўсяляе надзею, што банкаўская справа ў рэспубліцы нарэшце выйдзе са стадыі дзікасці.

*Неутешительные раздумья*

## Гражданский процесс над С.Алексиевич и ее книгой "Цинковые мальчики" — это наше второе поражение в "афганской" войне

Закончился гражданский процесс о защите чести и достоинства по иску Головневой—Кецмура к писательнице Светлане Алексиевич. Последний день процесса собрал много журналистов, и в некоторых изданиях уже промелькнули сообщения о решении суда: иск Головневой отклонить, иск Кецмура удовлетворить частично. Я не стану дословно цитировать заключительное постановление, скажу только, что оно носит, на мой взгляд, довольно примиренческий характер. Но примирило ли оно стороны в действительности?

Инна Сергеевна Головнева, мать погибшего в Афганистане старшего лейтенанта Головнева, по-прежнему на "тропе войны" — она собирается подавать кассационную жалобу и судиться с писательницей дальше и дальше. Что движет этой женщиной? Что движет этой матерью? Безутешное горе. Безутешное в том смысле, что чем дальше уходит в историю афганская война, чем отчетливее осознает общество, насколько авантюрной была эта затея, тем бессмысленней выглядит гибель наших ребят на чужой земле. Увы... За что были отданы их жизни? Родине, Отчизне, народу это было нужно? Но, с другой стороны, как смириться матери с мыслью, что сын погиб зря? Как это — зря?! Если и не было благородной идеи на этой войне, то общество должно, обязано ее создать, чтобы оправдать гибель одних и дать утешение другим! Вот такая философия... Да, требуется сладкая ложь во спасение, потому что человек — слаб, а правда иногда слишком жестока. Поэтому и не принимает Инна Сергеевна книгу "Цинковые мальчики". Потому для нее она — оскорбление: для матери слишком непосильна эта ноша — обнаженная правда об афганской войне.

Тарас Кецмур, бывший водитель-"афганец" — второй истец этого гражданского процесса. Его иск частично удовлетворен судом: два глубоко психологических, глубоко драматических эпизода в монологе под его фамилией, свидетельствующие, на мой взгляд, лишь о том, что война никого не отпускает живым, даже если целы руки-ноги, признаны по требованию Кецмура "оскорбляющими честь и достоинство". Впрочем, я даже готова понять Тараса. Помните, есть такой афоризм: "Бойтесь первых порывов души, они могут быть искренними"? Так вот его монолог в "Цинковых мальчиках" — это, на мой взгляд, именно первый искренний порыв души после Афгана. Прошло четыре года. Изменился Тарас. И мир вокруг него. И ему, наверное, хотелось бы многое изменить также и в памяти о прошлом, если уже не удается эту память вычеркнуть вовсе из души... А тут "Цинковые мальчики" — написано пером, не вырубишь топором...

После суда Тарас выглядел довольно растерянным и душевно смятым. Он признался, что необъяснимое чувство унижения и досады владеет им. Я искренне сочувствовала парню, потому что сама не раз ловила себя именно на этом: стыдно! Стыдно смотреть, слушать, участвовать, быть даже просто зрителем на этом процессе. Книгу разбирали по предложению, словно по клеточке препарировали живой организм. Так противоестественно и больно это выглядело... С помощью холодного меча правосудия пытались исцелить чью-то израненную душу. Не исцелили: инструмент оказался слишком грубым, "операционное" вмешательство — диагностической ошибкой. Каждый остался при своей правде: мать, солдат, писательница.

Светлана Алексиевич покинула заседание суда до окончания процесса — после очередного отказа суда о ходатайстве писательницы на литературную экспертизу. Алексиевич резонно спрашивала: как можно судить документальную повесть, не зная основ жанра, не владея азами литературного труда и не желая вдобавок знать мнение профессионалов? Без литэкспертизы это не гражданский процесс, а ссора на коммунальной кухне! Но суд был непреклонен. После второго отказа в литэкспертизе Светлана Алексиевич покинула зал заседаний. При этом она сказала:

— Как человек я прошу прощения за то, что причинила боль, за этот несовершенный мир, в котором невозможно даже пройти по улице, чтобы не задеть другого человека... Но как писатель я не могу, не имею права просить прощения за книгу, за правду! Этот процесс еще раз убедил меня, что в нашем обществе идет духовная гражданская война — люди расколоты по отношению к своему прошлому. Сейчас все — политика, даже цены на колбасу. Ну, а то, что иск Головневой и Кецмура приняли к судопроизводству, — политика тем более. Процесс показал, насколько мы милитаризованное общество — нам постоянно требуются виновники и жертвы, мы привыкли жить в состоянии борьбы. Атмосфера в зале суда, где страсти были накалены до предела, где обозленность мешала слышать и понимать другого человека, и даже священника, подтвердила мои мысли: сейчас очень легко возбудить в толпе ненависть. А что дальше? Война?.. Я надеюсь еще раз встретиться с "афганскими" матерями, но не в суде, а в церкви. Туда людей приводит покаяние, а не жажда борьбы и мести. Может быть, тогда мы сможем понять друг друга...

**Елена МОЛОЧКО,**
**обозреватель "Народной газеты".**

